


Фінансавы аддзел Павятовай рады нарадовай у Беластоку службовым пісьмом ад 6 лютага г.г. паведамляе грам. І. Ж. з вёскі Каўпакі, што да яго прашэння аб льгоце ў падатку ад 10 ліпеня 1961 года трэба далучыць: пасведчанне, што сын у арміі, і лекарскія пасведчанні аб здароўі бацькоў і сястры Н. Здзіўлены быў грам. І. Ж. падвойна: раз, што меў цярпліва чакаць на адказ, а потым забыў аб напісаным прашэнні (меў на гэта час!) і зрэшты, восенню сын ужо вярнуўся з арміі; другі, што якраз патрэбныя пасведчанні былі складзены амаль у той час што і прашэнне.

Ну што ж, бывае... служба ў арміі кароткая.

М. К.



### ЗАКАХАНЫ

— Я без цябе, Маруся, жыць не магу.

— Ты гэта ўжо мне другі год гаворыш, але ўсё ж такі не памёр.

Прыслала Анна Андросюк

### СЫН І БАЦЬКА

— Тата, ці патрапіш падпісацца з зачыненымі вачыма?

— Зразумела, патраплю!

— Дык зачыні вочы і падпішы мой дзённік.

Прыслала Антаніна Лукашук




### НА РЫНКУ

У кабінет доктара ўбягае селянін і гаворыць:

— Хутчэй, пане доктар, мая жонка зламала нагу!

— У якім месцы? — пытае доктар.

— На рынку, — адказаў селянін.

Прыслаў Мікалай Ляўша



— Віншую, вы перамаглі міжнароднага гросмайстра па шахматах.



Без слоў



Рацыяналізатар




Аўтапартрэт

### ШТО ГАЛАВА — ТО РОЗУМ

Аднойчы селянін вёз прадаваць капусту ў горад. Раптам уехаў воз у каўдобіну, і капуста пасыпалася ва ўсе бакі па вуліцы. Прахожыя спыніліся і пачалі дзівавацца, што кожная галоўка падае ў свой бок. Усхваляваны селянін сказаў:

— Няма тут над чым здзіўляцца, бо што галава, то і розум.

Прыслала Люба Іванюк

### ЧАМУ

— Тата, чаму гэты баран не мае рогаў? — пытае ў бацькі малая Зося.

— Бо яшчэ не жанаты, — адказаў той.

Прыслаў Павал Семянюк



— Каб ты не гаварыла, што ўсё сам прапіваю.



### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ ЧЫТАЧОЎ

Шаноўная Рэдакцыя!

У нас бяда. Не маем адкуль узяць словы песні «Геолагі», а яны нам вельмі патрэбны. Дапамажыце нам, калі ласка, і надрукуйце песню ў бліжэйшым нумары.

Ірына Кур'яновіч
Марыя Раеўская
Бельск

З прыемнасцю выконваем Вашу просьбу:

# ГЕОЛАГІ

Словы С. Грэбеннікава і Н. Дабранравава

Музыка А. Пахмутавай.




Ты уехала в знойные степи,
Я ушёл на разведку в тайгу.
Над тобою лишь солнце палящее светит
Надо мною лишь кедры в снегу...

Припев:

А путь и далёк и долог,
И нельзя повернуть назад...
Держись, геолог,
Крепись, геолог,
Ты — ветра и солнца брат!

На прощанье небес синевою
Чистотою студёной волны,
Голубою заветной Полярной звездою
Поклялись в нашей верности мы.

Припев:

Лучше друга нигде не найду я.
Мы геологи оба с тобой —
Мы умеем и в жизни руду дорогую
Отличить от породы пустой!

Припев:

Я в суровом походе спокоен —
Ты со мной, в каждой песне моей...
Закалённая ветром, и стужей, и зноем,
Только крепче любовь и сильней!

Припев:

А путь и далёк и долог,
И нельзя повернуть назад...
Держись, геолог,
Крепись, геолог,
Ты — ветра и солнца брат!

## Шмат зрабіла

(гумарэска)

Адна жанчына кажа да сваёй дачкі:

— Ну, дочка, хопіць сядзець, склаўшы рукі, вазьміся за працу.

— А што мне рабіць? — пытае дачка.

— Што ўсе людзі робяць, тое і ты рабі.

— А як даведацца, што людзі робяць?

— Абыйдзі суседзяў і паглядзі.

Увайшла дачка ў адну хату, бачыць — там жыта веюць. Увайшла ў другую — там ідзе сцірка, параць бялізну. Увайшла ў трэцюю — там хлеб пякуць. Вярнулася дзяўчына дамоў і вырашыла ўзяцца за працу — правеяць жыта, як людзі веюць. Але на бяду ў хаце не было жыта. Вось узяла дзяўчына муку, вынесла на панадворак і давай веяць. Вецер і развеяў усю муку па двары. Адну работу зрабіла, вырашыла ўзяцца за другую. Ускіпяціла ваду. Калі, на грэх, бялізны для сціркі не знайшла — узяла і кінула ў чыгун з варам бацькавы кажух. Засталася толькі трэцяя работа — спячы што-небудзь. Злапала дзяўчына цяля, увапхнула яго ў печ і пайшла да маці, якая ў полі была.

— Ну, дачка, зрабіла што-небудзь? — пытае маці.

— Зрабіла, мама, і то шмат работы. Муку правеяла, кажух выпарыла і цяля спякла.

П. М.

## КАЖУХ

Цётка Марына зрабіла сабе новы кажух дублены раманаўскім спосабам. Як вядома, раманаўскія кажухі самыя лепшыя, лёгкія і дажджу не баяцца. Такі кажух кожны здалёк пазнае і ад зайздрасці языком прыцмоквае. Раманаўскі кажух цёмна - шэрага колеру, нічога супольнага не мае ён з белымі, ні чорнымі кажухамі, якія мы сустракаем на кожным кроку. Цяпер такіх кажухоў няма, бо раманаўскія майстры пераваяліся.

Цяпер чытачам зразумела, чаму Марына хадзіла з задзертай галавою і пры кожнай нагодзе адхіляла крысо, паказваючы пушыстую аўчынку, якой і ліса пазайздросціла б.

Неяк выбралася Марына на кірмаш яблыкі прадаць ды патрэбную ўсячыну купіць. Прыехала Марына на рынак, коням торбы павесіла, па прычыне адлігі кажух зняла, зложыла і села на яго.

Сядзіць Марына на кажусе, яблыкі меркай мерае, ажно падыходзіць кучаравы хлапец і просіць паўмеркі яблык. Выцягнуў хлапец грошы, бачыць Марына: упусціў сінюю паперку. Не прыкмеціўшы страты, наступіў ён на гэтую паперку, рассунуў яблыкі па кішэнях, заплаціў і пайшоў сабе.

Дваццаць злотых — грошы невялікія, але самі з неба не падаюць. Саскочыла Марына з воза, падняла паперку, улазіць назад на воз, а кажуха як бы і не было. Марына ў крык. Дзве дзесяткі знайшла, а пяцьдзесят сотняў згубіла.

Збегліся дапытлівыя, але даведаўшыся, што справа ў кажусе, разышліся. Не разбіраюцца людзі ў раманаўскіх кажухах, не шкадуюць Марыны, кожнаму свой кажух бліжэй цела.

Як Марына не галасіла, кажуха не вярнула. Дадаць да гэтай гісторыі няма чаго. Гаворачы між намі, нашыя людзі, часта ганяючыся за малым, губляюць вялікае. Можна было б ім дапамагчы парадай або прыкладам аб гэтым кажусе. На жаль на такіх людзей самыя добрыя парады дзейнічаюць менш ад сіняй дваццацізалатовай паперкі.

Дзядзька Лявон